Справа ў тым, што, як можна было лёгка прадбачыць, Польшча, захапіўшы аружнай сілай і проці волі мясцовых жыхараў нямецкую Верхнюю Сілезію (Горны Сьлёнск), аказалася бяссільнай ператравіць захопленае... На „Крэсах Заходніх“ Польшча знайшла праціўніка, з якім бароцца ей зусім не пад сілу... Калі і на нашых беларускіх абшарах палітыка гвалтаў выклікаець толькі ўзрост нацыянальнага пачуцьця беларускага народу і адпор гвалтаўніком, дык у Сілезіі гэтая справа распалячаньня краю, які знайшоў у злучэньні з Польшчай адно толькі гаспадарчую руіну, зусім збанкрутавала. Самі польскія газэты зьмяшчаюць размовы з работнікамі, сялянамі, гандлярамі і прамысλоўцамі—паў-палякамі, паў-немцамі, якія сьпярша галасавалі за Польшчу, а цяпер, пасьля 5 гадоў польскае гаспадаркі, кажуць так:—„Зрабеце цяпер, паночкі, плебісцыт,—дык, як адзін, будзем галасаваць за Нямеччыну!!!“ І—можа найхарактэрней тое, што навет сам правадыр слаўнага сілезскага „паўстаньня“, Корфанты, рашуча асуджае ўсю распачатую правакацыю...

Што-ж такое рабілі немцы – грамадзяне Польшчы—у сваім краі? У чым галоўная іх віна?

Робяць яны там—тое-ж, што рабілі заўсёды, паскольку польская ўлада не перашкаджае гэтай іх працы над культурай краю. А віна іх, як сцьвярджае сама польская прэса, — у тым, што яны робяць гэта—шмат лепш, як палякі...

Вось жменя гэтых „абвінавачаньняў“, якія высоўвае прэса польскіх готэнтотаў:

1. Нямецкія фабрыкі і заводы ідуць добра, а польскія банкрутуюць...

2. Безработныя немцы маюць добрае ўтрыманьне, значныя дапамогі, а польскія атрымліваюць грашакі...

3. Школьнікі з польскіх школаў бягуць масова ў нямецкія, дзе маюць лепшае ўтрыманьне, ня кажучы ўжо аб без параўнаньня вышэйшай навуцы...

4. Рэкруты-палякі, „падкупленыя немцамі“, ня хочуць служыць у польскім войску, і... ўцякаюць у Нямеччыну!

5. Мясцовыя палякі, выбраўшыя польскае грамадзянства замест ранейшага нямецкага, цяпер, ізноў жа „перакупленыя немцамі“, тайна запісываюцца ў лік нямецкіх грамадзян,—каб у разе якога канфлікту з польскай уладай („Kur. Poran.“) мець апору ў нямецкае ўлады...

Словам—на кожным кроку нямецкае багацьце, нямецкая гаспадарка і культура—б‘юць і выцясьняюць ніжэйшую польскую... Немцы пачынаюць без вайны і праліцьця крыві мірнай працай адбіраць назад захопленыя Польшчай іх край...

Вось ясны і зразумелы працэс, які бяссільна спыніць польская ўлада... І вось польская готэнтоцкая прэса вінаваціць нямецкія арганізацыі ў тым, што ўся гэтая праца вядзецца за грошы, якія дасылаюцца ў край—з Бэрліну. „Kur. Poran.“ піша, што гэтыя арганізацыі „масова падкупаюць“ бацькоў вучняў, польскіх урадоўцаў, работнікаў, гандляроў, каб перарабляліся назад у немцаў...

Калі пачытаць газэту, дык выходзіць, што амаль ня ўсё польскае насяленьне „чыста-польскага“ Сьлёнску пераходзіць — на ўтрыманьне немцаў...

І вось гэты скандальны правал усей польскай работы ў краі польская дэфэнзыва атрымала загад „спыніць“.

Сам „Kur. Por.“ сцьвярджае, што арышты і обыскі абхапілі агромныя колы сяброў легальных нямецкіх арганізацыяў, што бязупынна „выпускаюцца з прычыны адсутнасьці доказаў віны“ арыштаваныя, але на іх месца „адбываюцца новыя арышты“. Арышты йдуць сотнямі, а мо' і тысячамі... Шукаюць „шпіёнаў“ сярод найбольш ведамых і паважаных нямецкіх дзеячоў краю... Але знайшлі пакуль што, як паведаміў навет сам „ПАТ“, толькі некалькі... палякоў, якія мо' і запраўды служылі за грошы шпіёнамі нямецкага ўраду... А якога характару былі гэтыя арышты, обыскі і „баданьні“, найлепш сьведчыць тое, што адзін з арыштаваных — стары нямецкі інжэнер Лямпрэхт, інспэктар капальні цынку, — павесіўся (ці мо‘ інакш аказаўся павешаным) у сваей камэры ў вастрогу... Гэтая сьмерць выклікала страшэннае абурэньне сярод усяго нямецкага насяленьня Сілезіі... Хаўтуры Лямпрэхта пагражалі ператварыцца ў вялізарную дэманстрацыю проці польскай улады... Дык паліцыя ўначы напярэдадні хаўтуроў цішком вывязла цела нябошчыка на граніцу і аддала там яго крэўным, ці, папросту, выслала з краю навет нябошчыка...

Якое фатальнае ўражаньне зробіць гэтая правакацыйная кампанія на ўсю сусьветную апінію—якраз перад Агульным Зборам Лігі, ясна кожнаму.

# Ці будзе Польшча у Радзе Лігі?

## Прэсавая кампанія.

Толькі два тыдні асталіся да 8 сакавіка, калі Агульны Збор Лігі Народаў мае вырашыць справу, каму зараз-жа, а каму мо' пасьля (а мо‘ і ніколі!) дастануцца сталыя мейсцы ў Радзе Лігі. Дык, ясна, што гэты кароткі час будзе выкарыстаны ўсімі заінтэрэсаванымі дзяржавамі дзеля самай гарачай, адчайнай барацьбы.

І прэса ўсяго сьвету пачала гэтую кампанію, выяўляючы волю сваіх краёў і ў значнай меры прадбачачы рэзультаты паседжаньня 8 сакавіка.

**Англійская** прэса наагул, як сьцвярджае сам „ПАТ“, — няпрыхільна да павялічэньня Рады новымі сябрамі, апрача Нямеччыны.

Цікава фармулуе пагляд англійскай публічнай апініі ведамы францускі публіцыст Бэнвіль (манархіст і „прыяцель Польшчы“, уздыхаючы толькі за... узнаўленьне франка-расейскага саюзу!). Ён піша, што англійскія палітыкі сьмяюцца з прэтэнсіяў Польшчы быць вялікай дзяржавай... „Лёкарнскі дух“,—піша ён,—трэбуе, каб на карысьць Нямеччыны былі мірна зьменены яе ўсходнія граніцы, праведзеныя залішне лёгкамысна... А Польшча, хоча ці ня хоча, павінна падчыніцца гэтаму..,

**Швэцкая** прэса ўся ў адзін голас трэбуе цяпер пусьціць у Раду толькі Нямеччыну, дый наагул—проці ўсякай далейшай зьмены ў Радзе.

Орган швэцкіх сацыял-дэмакратаў, матывуючы варожую пазыцыю Швэцыі да польскіх дамаганьняў, піша, што „мейсца ў Радзе ня можна даць тым дзяржавам, якія створаны коштам іншых дзяржаваў (народаў), бо іх уплыў на працу Лігі будзе найбольш шкодным.

**Чэха-славацкая** прэса вельмі дэлікатна піша аб кандыдатуры Польшчы... на **нясталае** мейсца ў Радзе, дадаючы, што выбар Польшчы стаўся-б коштам Чэха-Славакіі, якая прадстаўляе ў Радзе ўсю Малую Антанту (як Швэцыя—ўсе Скандынаўскія дзяржавы: сябе, Нарвэгію, Данію і Фінляндыю)...

Чэха-славацкая прэса зьвяртае ўвагу на пагрозы польскае прэсы, што ў выпадку адмовы ей сталага мейсца ў Радзе Лігі, яна... адвернецца ад Заходу і павернецца тварам да Усходу...Ці не даўно пара?!

Урэшце **нямецкая** прэса, не разводзячы зашмат піша, што ўсялякая зьмена ў складзе Рады, не прадбачаная ў Лёкарно, зьмяняе ў аснове ўсю ўстанову Лігі, дык дае і Нямеччыне права пераглядзець нанова яе рашэньне аб увaходзе ў Лігу... І быццам нямецкі ўрад ужо ў гэткім духу афіцыяльна заявіў англійскаму ўраду... „Гатоўцеся тады ў уласным саку, а Нямеччына ня ўвойдзе ў Лігу“ (дадатак да голасу Чэхіі).

### „Каталіцкі блёк“.

Француская радыкальная прэса — ў клапоце! Яна хацела-б умацаваць уплывы Францыі ў Радзе Лігі, пусьціўшы туды Польшчу, але за ей трэба было-б пусьціць і Гішпанію і Бразылію. А тут папская сталіца на вестку аб гэтым зараж-жа загаманіла аб стварэньні ў Радзе Лігі... можнага „каталіцкага блёку“, зложанага з Італіі, Гішпаніі, Бразыліі і Польшчы... У гэты клерыкальны блёк не ўвайшла-б „бязбожная Францыя“, у якой радыкальныя ўрады даўно вядуць заўзятую барацьбу з засільлем каталіцкага кліру... Гэткім чынам падтрымаць кандыдатуру Польшчы—для радыкальнага ўраду Брыяна падвойна забойча і немагчыма: і з боку міжнародавай і з боку ўнутранай палітыкі...

Калі верыць галасам англійскай прэсы, Брыян так умовіўся з Чэмбэрленам: Францыя, спаўняючы „шляхотна“ сваё абяцаньне саюзнай Польшчы, рашуча падтрымае яе кандыдатуру ў Раду... Але ўсе іншыя ўплывовыя дзяржавы—сябры Рады і Лігі папросту пяройдуць да чарговых спраў над прапазіцыяй Францыі... Гэткім чынам будзе ўратавана шляхотная ляяльнасьць саюзьніцы, і скандалу з „каталіцкім блёкам“ (—проціфранцускім і проціанглійскім!)—ня будзе...

### Чым Францыя хоча заплаціць Нямеччыне за польскую кандыдатуру ў Раду Лігі?

Адна англійская газэта паведамляе, што Францыя гатова заплаціць Нямеччыне за згоду на польскае мейсца у Радзе Лігі — далейшым значным зьмяншэньнем ваеннай акупацыі Надрэніі...

А вось другая француская газэта піша, што францускі ўрад маніцца запрапанаваць Нямеччыне за яе згоду—польскі Гданскі Калідор...

Гэткая думка—вельмі дасьціпная: бо і таньней для Францыі, і ведама, што Нямеччына ўваходзіць у Лігу, каб першым чынам узяць назад гэты Гданскі Калідор...

### Францыя і Японія аб дамаганьнях Польшчы.

Лёнданская „Трыбуна“ даведалася, што паразуменьне Францыі з Англіяй у справе польскай кандыдатуры ў Раду Лігі ўжо дасягнута... Але—не Чэмбэрлен уступіў Брыяну, а наадварот—Брыян Чэмбэрлену...

Тая-ж газэта піша, што Японія рашуча выказалася проці ўваходу ў склад Рады Лігі новых сяброў, апрача Нямеччыны.

**Хочаце паправіць дабрабыт сваей газэты „Беларуская Ніва“, дык безадкладна зьвярніце ей доўг, калі хто не заплаціў яшчэ!**

# Замест адказу.

(*Гістарычная спраўка*).

Новы орган так-званых „казённых беларусаў“—„Беларускае Слова“—у № 2 зьмясьціў чыста бандыцкі выпад проці мяне. Выпад гэны па сваей форме варт толькі таго, каб кіраўніка „газэты“ пацягнуць пад суд. Аднак, пакараньне адказнага „рэдактара“ мяне здаволіць ня можа, бо-ж вінаваты ня ён, а тыя „высокія асобы“, якія яго нанялі за мізэрную пэнсію.—Дык ні ў якую палеміку з „Бел. Словам“ я ўваходзіць ня буду, таксама і на лаянкі і зьвягу ўвагі не зварачаю. Затое пастараюся высьвятліць перад **чэснай** часткай нашага і **польскага** грамадзянства адну справу, якую ў сваім часе з яўна злой воляй паднялі паны Студніцкі з Обстам і якую цяпер з такой жа злой воляй і таксама фальшыва асьвятляе польскі поў-афіцыёз у беларускай мове.

Я хачу адтварыць адзін мамэнт з нядаўных часоў—з пачатку нямецкае акупацыі ў Заходняй Беларусі. Лішне многа ёсьць яшчэ сьведкаў з таго часу, якія могуць падцьвярдзіць тое, што апішу, а найлепшы сьведка—пісаныя дакумэнты, перахаваныя ў архіве Беларускага Музэю і даступныя кожнаму чалавеку добрае волі, які хацеў-бы з імі пазнаёміцца.

Падыходжу да гэтае справы так паважна, паміж іншым, і затым, што, у часе маей бытнасьці ў Парыжу падчас міравое канфэрэнцыі, на якой я выступаў у абароне інтарэсаў маей Бацькаўшчыны, я сустрэўся з адгалоскамі справы, да якой прыступаю, сярод учасьнікаў канфэрэнцыі—прадстаўнікоў вялікіх дзяржаў, якіх у адпаведным духу стараліся настроіць проці беларусаў польскія палітычныя агенты.

---

Яшчэ ў канцы 1915 году, калі немцы занялі Вільню, у так-званым Віленска-Ковенскім Абывательскім Камітэце адбыўся сход журналістаў усіх чатырох краёвых нацыянальнасьцяў, які пастанавіў ад імя ўсіх гэтых нацыянальнасьцяў зьвярнуцца да Обэр-Ост (галоўнага камандаваньня на Усходзе) з мэмарыялам, дамагаючыся дазволу на выпуск газэт у краёвых мовах. Да мэмарыялу былі далучаны просьбы аб канцэсіі на газэты ад кожнай нацыянальнасьці асобна, у тым ліку і ад беларусаў. Мне самому, як сябру прэзыдыуму Камітэту, давялося аддаць акупанцкім уладам мэмарыял з усімі прылажэньнямі.—Аднак, вынікі гэтага першага згоднага выступленьня перад акупантамі ўсіх нацыянальнасьцяў краю аказаліся вельмі сумнымі: немцы, нездаволеныя праявай такой **салідарнасьці**, далі на ўсё просьбы аб канцэсіі на газэты адмоўны адказ.

Але акупанты разумелі, што без газэт край жыць ня можа, дык пастанавілі пайсьці насустрэчу дамаганьням мэмарыялу, але шляхам перагавораў з кожнай нацыянальнасьцяй асобна. І вось **першую** канцэсію на газэту атрымалі.... **палякі!**

Праз нейкі час пачаліся перагаворы з беларусамі і літвінамі. Гэтым дзьвюм групам немцы паставілі вельмі цяжкія варункі канцэсіі. Баючыся, што праз газэту можа ўстанавіцца цесная сувязь паміж віленскімі радыкальнымі беларускім і літоўскім цэнтрамі і сялянскімі масамі, немцы паставілі такі варунак: канцэсія будзе дадзена, але з тым, што адміністрацыя газэты астанецца ў руках Прэсавае Управы („Pressestelle“). Такім парадкам беларуская група, якой будзе дадзена канцэсія, можа пісаць ўсё, што захоча (— ведама, што прапусьце нямецкая цэнзура!), а на пашырэньне газэт на правінцыі меціме манаполію Прэсавая Управа так, **каб рэдакцыя ня мела навет адрасоў сваіх падпішчыкаў!** Мала таго: дзеля забясьпечаньня аплаты адміністрацыі (нямецкай!) друкарні і паперы (якая йшла толькі з Нямеччыны), у канцэсіі быў устаўлены гэтакі пункт:

„§ 14. Die Pressestelle wird bemüht sein, das erforderliche Papier für die Zeitung zu besorgen. Die Kosten hierfür werden durch sich ergebende Überschüsse aus der Zeitung gedeckt, ebenso werden andere Unkosten aus den Überschüssen gedeckt. **Ein ev. sich ergebender Reingewinn nach Abzug der Unkosten, fällt den Herausgebern zu.**

Пабеларуску гэта знача:

„§ 14. Прэсавая Управа займецца дастаўкай патрэбнай для газэты паперы. Кошты гэтага будуць пакрыты з атрымліваных лішкаў з газэты,—гэтак сама і другія выдаткі будуць пакрыты з даходаў. **Эвэнтуальна атрыманы чысты даход, адлічыўшы выдаткі, належыцца выдаўцом**“.

Лічучы патрэбным мець сваю газэту хоць-бы на найцяжэйшых варунках, беларусы, якім адпаведная прапазіцыя была зроблена ў **ультыматыўнай форме** („хочаце—добра, не—дык ніякае газэты ня будзе“), — былі прымушаны згадзіцца на яе. Тэкст канцэсыйнае ўмовы, падпісаны 2 лютага 1916 году грамадзянамі Іванам і Антонам Луцкевічамі, Вацлавам Ластоўскім (падпісываўшым спачатку газэту, як рэдактар-выдавец), загадчыкам друкарні М. Кухты, Дырсай, начальнікам Прэсавае Управы, ротмістрам Штільке і ляндштурмманам Эдм. Зуэмілем,—знаходзіцца ў Беларускім Музэі.

Літвіны на прапазіцыю нямецкае ўлады не згадзіліся, і ім канцэсіі на газэту не далі. Затое нямецкае галоўнае камандаваньне пачало выдаваць сваю газэту ў літоўскай мове (пад кіраўніцтвам прускіх абнямечаных літвіноў), пазбавіўшы гэтак літоўскае грамадзянства краю магчымасьці высказваць у друку свае думкі нешта, здаецца, аж на два гады...

У беларускай мове пачаў выхадзіць „Гоман“. Сябры рэдакцыі, ня гледзячы на вельмі цяжкія матэрыяльныя варункі іх усіх, **працавалі абсалютна бясплатна**. Прэсавая Управа адмовілася навет здаваць грашовую справаздачу і аддаваць чысты даход у рукі канцэсіянераў, хаця газэта разыходзілася ў ліку **3,000 экзэмпляраў і толькі за гатоў-**

# ХРОНІКА.

**Канфіскацыя „Маланкі“.** За нейкі „попельцовы“ жарт зусім нявіннага характару афіцыяльны абаронца „пануючае“ каталіцкае царквы ў Польшчы, камісар ураду на м. Вільню, сканфіскаваў увесь наклад № 3 беларускае гумарыстычнае часопісі „Маланка“...

**Цэннае выданьне.** Коштам „Беларускага Цэнтру ў Літве“ В. Ластоўскі выдаў перадрук вельмі цэннага беларускага гістарычнага памятніка пад назовам: „Лѣтописецъ Великого Кн(я)зства Литовъско(го) и Жомойтъского“ паводле сьпіску гр. Рачынскага, зьмешчанага ў XVII томе „Полнаго Собранія Русских Лѣтописей“.

Выданьне гэтае, знаёмячы шырэйшае беларускае грамадзянства з зьместам летапісі, якая знаходзіцца ў зборніку гр. Рачынскага і запісана ў другой палове XVI ст., — мае бясспрэчную цэннасьць. На жаль, спосаб выданьня значна зьмяншае навуковую цэннасьць памятніка: орыгінал быў пісаны славянскімі літарамі, а п. Ластоўскі (—мо' з прычыны адсутнасьці гэткіх у Коўне?) перадрукаваў яго сучаснай „гражданкай“, што сьцірае шмат характэрных асаблівасьцей старое беларускае мовы і правапісу.

**Літэратурны суд.** Як мы паказывалі, ў мінулую суботу ў салі Віленскае Беларускае Гімназіі пад кіраўніцтвам вучыцеля беларускае літэратуры Луцкевіча адбыўся ўладжаны вучнямі старэйшых клясаў літэратурны суд над героем М. Гарэцкага з повесьці „Дзьве Душы“, Абдзіраловічам. Вінавацілі Абдзіраловіча вучаніца Забаронак і вучань Грышкевіч (VIII кл.), трэбуючы грамадзкага прысуду герою сказанае повесьці за тое, што ён не заняў выразнага становішча ў мамэнт вялікіх зьменаў на Бацькаўшчыне, ды гэтак астаўся па-за жыцьцём, як бяздзеяльны глядзельнік, змарнаваўшы на нішто свае сілы. Баранілі А. тры вучні тэй-жа VIII кл.: Шустэр, Трэпка і Радзюк, даводзячы, што А. зьяўляецца хваравітым вытварам варункаў жыцьця, якое перасадзіла яго, сына мужыцкага, на чужую яму панскую глебу ды гэтак зусім скалечыла яго духова.

Старшыня суда паставіў лаве прысяжных, зложанай з 12 вучняў VI, VII і VIII клясаў пад старшынствам вучня Артаева, гэткія тры пытаньні: 1) ці даведзена анты-грамадзкасьць паступаньня Абдзіраловіча ў адносінах да фактаў, на якіх будавала свае абвіненьне пракуратура, 2) ці, у выпадку прызнаньня гэтых фактаў, А. меў сьвядомую, вольную і няпрымушаную волю і 3) ці дзеяльнасьць А., як беларуса і грамадзяніна, заслугуе на грамадкае засуджэньне?

Лава прысяжных, пасьля ўсебаковага разгляду матываў старон, на першы з пастаўленых пунктаў адказала: не. Гэтак адкалі і два другія, і А. быў апраўданы.

На суд сабралося шмат моладзі—вучняў старэйшых клясаў і студэнтаў. Суд выклікаў вялікае ажыўленьне сярод сабраўшыхся. Пажадаем, каб гэтыя дыскусіі ладзіліся часьцей — і ня толькі ў Вільні, бо яны вельмі дапамаюць моладзі выпрацоўваць свой сьветапагляд і прывучаюць да крытычнага і самастойнага думаньня.

**Афіцыяльны курс грошы на 23 лютага.** Даляр — 7 зл. 85 гр. Залаты рубель — 4 зл. 05 грошы.

# Карэспандэнцыі.

## Школьнае будаўніцтва на крэсах.

(З Лідчыны).

У вёсцы Збляны, Лідзкага пав., ужо ў часе вайны ў 1914—1915 г. быў закончаны будынак для 2-х клясовай міністэрскай школы.

Дзеля нейкіх не зразумелых прычын гэты будынак улада рашыла перанясьці ў мястэчка Беліцу.

Сяляне, высілкамі якіх будавалася гэта школа, яшчэ ў леташнім годзе запратэставалі перад Міністэрствам Асьветы і мясцовымі ўладамі. Але ніякага адказу на іх пратэсты аж да гэтага часу няма.

На прошлым тыдні ад староства прыехалі тэхнікі ўжо разьбіраць гэты будынак. На дамаганьне кіраўнікоў разбору, каб сяляне далі рабочых і падводы, усе жыхары в. Збляны катэгарычна адмовіліся і на сходзе рашылі пачыніць яшчэ адпаведныя крокі, каб уратаваць з такім трудом збудаваную іхнімі рукамі для сваіх дзетак школу, дзеля чаго праз дэлегацыю зьвярнуліся да Пасольскага Клюбу Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады аб падтрыманьні іх дамаганьняў.

**Зблянавец.**

## Са школьнага жыцьця.

(В. Лаўрыновічы, Лыскаўскае гм., Ваўкавыскага пав.).

Дзяржаўная Канстытуцыя кажа, што кожнае дзіця ў веку ад 7 да 14 год павінна абавязкова вучыцца, а той, хто ня будзе трымацца гэтага загаду, дык будзе пакараны; але ж у нас дык выйшла наадварот, бо наш вучыцель галілеец п. Кольбарчык выгнаў са школы вучня Паўла Шкодзіча. І выгнаў за тое, што вучань ня меў сшытка для арытмэтыкі, ня гледзячы на тое, што той вучань меў сшыток для каліграфіі з малымі розьніцамі ў графічных лініях, які мог быць прыдатны і да арытмэтыкі, а іншага сшытка ня было дзе купіць у гэты дзень.

Брат „пакрыўджанага“ вучня, падаў скаргу да гміннага школьнага надзору, а пан войт, сябра гэтага надзору, сказаў, што „будзе справа“, бо, акрамя гэтага, паступілі і іншыя скаргі на таго-ж самага вучыцеля.

Я назваў выгнанага вучня са школы „пакрыўджаным“, але калі ляпей разабрацца, дык можна зазначыць, што гэты вучань выіграў. Выігрнў ён тым, што брат сам узяўся вучыць яго пабеларуску — знача матчынай мовай.

Цяпер скажу, колькі слоў, аб навучаньні наагул: школа польская істнуе ў нас чацьвёрты вучэбны год, але да гэтых часоў, тыя вучні, якія вучацца таксама чацьвёрты год, чытаюць па кніжцы „для другога году навукі“ дый то чытаюць так, як рак ходзіць.

Нешта ня лезе нашым дзецям у галовы польская навука!..

**Эс—эс.**

## Каго надзяляюць зямлёю?

(В. Гудзевічы, Горадзенскага пав.).

Восеньню 1925 г. дзялілі 13 гэктараў адрэзанай ад Гудзевіцкай праваслаўнай царквы зямлі. Зямля ляжыць побач з в. Лядкі, дзе многа ёсьць малазямельных і беззямельных праваслаўных беларусаў, — і, ня гледзячы на гэта, ніводнаму з іх зямлі ня далі, але далі тром палякам: Антону Эйсьмонту і Антону Рышкевічу з аколіцы Семяшкі, у трох вярстах ад гэтае зямлі, ды Станіславу Седзяневскаму, з аколіцы Сядзенеўцы ў 5 вярстах ад зямлі, — і чацьвёртаму Максіму Халецкаму, беларусу-каталіку, які арэндаваў гэтую зямлю.

З гэтай чацьвёркі адзін толькі Рышкевіч малазямельны, а рэшта дык ня тое: напрыклад, Эйсмонт мае з братам 22 дзесяціны.

Вось, каму аддаюць нашу зямлю!..

**Праваслаўны.**

## Дарожнае будаўніцтва на Крэсах.

(З Слонімшчыны).

У восень мінулага 1925 г. быў закончан аграмадны бетонны мост на рэчцы на аднэй вярсьце па дарозе з Слоніма ў Дзятлава, які каштаваў ураду каля 25.000 злотых.

У студзені г. г. вада падмыла гэты мост, і ён зусім разваліўся, так што цяпер высокія сьцены ляжаць адна на другой. Вось, як марнуюцца „драговыя падаткі“, якія са сьлязамі выплачваюцца згалелым землярobам, збываючым апошнюю карову і падушкі.

**З пад Слоніма.**

## Які ў нас „самаўрад“.

(М. Мілейчыцы, Бельскага пав.).

Выбралі мы солтыса, Андрэя Баярскага, які добра жыве з людзьмі і добры для іх. Але войту п. Кацыку і раднаму Сц. Дзеляновічу, Язэпу Тынкевічу, Нарбуту, маці якога „графіня“ і ў добрых адносінах з бельскім старостаю,—не спадабаўся гэты солтыс, і рашылі яны пазбыцца яго.

І вось, гэная „графіня“ зрабіла патрэбнае ў старосты, скуль і прышло: звольніць солтыса з прычыны малой граматнасьці. І тут-то адбыліся цікавыя выбары. Жыхары выставілі на солтыса Янку Высоцкага, а гмінная рада—Васіля Дзеляновіча, бацька якога і цесьць—Тынкевіч—гміннымі раднымі. За Янкай Высоцкім было 36 галасоў, а за Васіля Дзеляновіча толькі—12.

Аднак-жа, зацьвердзілі ў гміне Васіля Дзеляновіча. Жыхары Мілейчыцаў паслалі пратэст у Бельскае староства. Але гэты пратэст, дзякуючы захадам гміннае рады, папаў „пад сукно“. Мілейчыцкія жыхары, будучы ў старостве, выцягнулі справу з „пад сукна“.

Але ці паможа, ці не ўцячэ яна ізноў туды-ж?

**Справядлівы.**

## Гмінны „самаўрад“.

(Язно, Дзісенскага пав.).

Дзіўныя справы робяцца ў нас. Прыслаў нам пан староста за войта нейкага пана Лівандоўскага, кажуць бежанца з Літвы. Па абмылцы, ці што, але гэты п. войт стаў добра аднасіцца да сялян, ды стараўся быць чуць-чуць справядлівым. Вось, за гэта гмінная рада на паседжаньні сваім з 5./I. выбрала яго ўжо на стала войтам, а на заступніка старажыла нашае гміны Уладзіміра Мятлу.

Пастанову сваю паслалі на зацьверджаньне да старасты. І вось дзіва: стараста не зацьвярдзіў войтам п. Лівандоўскага, за адно й яго заступніка Мятлу. Апошняга мы разумеем, за што: наш чалавек ды ў дабавак мае страшнае прозьвішча, аднолькавае з прозьвішчам аднаго з нашых паслоў, нялюбага п. п. старостам.

Але чаму не зацьвердзіў п. Левандоўскага? Калі ён ня здатны, мае якія хібы, дык як мог „ясняльможны“ староста прысылаць да нас такога чалавека за войта? А калі добры чалавек, дык чаму выкідае яго ў той час, як ён выбіраецца грамадзянамі?! Але, як кажуць людзі, справа зусім навет не ў старосьце, а ў той квадратуры, якая паўстала з паноў: Гаеўскага, Мілашэвіча, Петрушоўскага й Матусэвіча.

Гэтыя паны „зайцамі“ пралезьлі ў раду. Маюць гонар па ліку сваіх дзесяцін. Хочуць кіраваць гмінай, але так, каб гэтага ніхто й ня бачыў, дзеля чаго шукаюць халопа, які-бы слухаў іх ува ўсім.

Аднаго ўжо маюць: гэта — сэкрэтар гміны Адамчык, спэцыяліст ад „жаночых хвароб“. Лічыць сябе хвельдчарам, акушэрам і нейкім яшчэ штукаром-шаптуном. Выстаўлялі кандыдатуру нейкага пана Рыпінскага, пра якога ніхто нічога ня чуў? Ну, але тут навет і тыя дурнаватыя радныя з нашых сялян, якія заўсёды прыслужваюцца паном, не паверылі панскаму слову, кандыдатура Рыпінскага праваліласся. 30./I. адбыліся паўторныя выбары. На гэты раз выбралі нейкага б. віцэ-губэрнатара Александроўскага Зьмітра й заступнікам таго самага Мятлу.

Пабачым, што тут зробіць пан староста са сваімі апякунамі-абшарнікамі. Ці зацьвердзіць. **Не зязюля.**

## „Міласьцівы пастыр“.

(З Дзісеншчыны).

Ужо два гады як маема ў Празароках ксяндза Габшэвіча, а яшчэ ня разу не пачулі з амбоны добрага слова. Толькі і займаецца абгаворваньнем людзей, толькі і чуем, што „to nie ludzie, a bydle, rospustniki, dandyci, bolszewicy“. І ўсё гэтае адносіцца больш да беднаты, якой часьцей прыходзіцца мець дзела з гэтым прыхільным пастырам і найбольш прасіцца. Да шляхты, панкоў ксёндз мае ласку, бо ім, што пробашч запяе за шлюб ці хаўтуы — дык яны рады старацца—яшчэ плюснуць у абедзьве рукі. А мы, бедната, вядома просімся—дык за гэтае і лічымся горшымі людзьмі. Што бярэ ксёндз з багацейшых—ня ведаем—пэўна ўжо сотнямі. Бо, калі ў сёлетнім месяцы жаніўся жыхар Празарок, Язэп Працукевіч, які ня мае — ані зямлі, ані хаты, толькі-шо вярнуўся з войска, зарабляе дзе-нідзе падзёншчынай, корміць матку і брата — дык гэты „міласьцівы“ пастыр перш „назначыў“ яму 25 зл., але перад шлюбам адумаўся „зьлітаваўся“ і зажадаў 38 зл, (ведама—па курсу золата). Ня маючы ніякага выхаду бядак заплаціў зажаданую суму.

Ня дзіва, што пасьля гэткага „мазольнага“ заробку ксёндз увечары паслаў свайго закрысьціяна да „ludzi porządnych“ прасіць іх на прафэранса.

А калі часам ды наш пастыр пападзе на прафэранса да Празароцкага рэстараншчыка, дык яго апостальскі галасок чуваць далёка на вуліцы, а жыхары суседніх з рэстаранам дамоў з за гэтага галаску ня могуць заснуць да тае пары, пакуль ня скончыцца „koleżeńska прафэрка“.

**Зязюля.**

## Цяжкае жыцьцё селяніна-беларуса.

(Глыбоцкая гм.).

З восені 1915 г. па загаду п. Старосты і войта сяляне мусяць пільнаваць тэлефонныя слупы. На тры кілямэтры назначылі па два чалавекі, і ад 18 гадоў усе мусяць нясьці гэтую варту. Падавалі мы просьбу Старосьце, каб зьняў з нас гэты няслушны цяжар, ды нічога не памагае. А тут надарыліся маразы; бедныя сяляне вопратак ня маюць, дык, бывала, увойдзе хто ў хату пагрэцца, а не застаў паліцыянт вартаўніка хоцьбы навет перад сьвітаньнем, у 6 або 7 гадзіне, — усё роўна пратакол, і тады плаці злотых з пятнаццаць.

Зьвяртаемся з гарачай просьбай да паважаных паслоў з Сялянска-Работніцкай Грамады памагчы нам скінуць з сябе гэтае няслушнае і непасільнае для нас ярмо.

**Селянін.**

# Паштовая скрынка.

**Браніславу Серахаму.**

„Беларуская Ніва“ друкуецца толькі кірыліцай; калі хочаце мець Беларускую газэту лацінкаю, выпішце Беларускую Крыніцу.

Адрас—Вільня, Завальная вул. № 7. Бел. Кнігар.

**А. Мікалайчыку.**

Калі і на які час службы будуць браць 1904 г. ня ведама. Каб сказаць Вам, ці можаце карыстацца адстрочкаю—трэба павядоміць аб стане гаспадаркі і сям'і.

**Ясьцы Сякрэт.**

Карэспадэнцыі Вашай зьмясціць ня можам—трэба, апроч псэўдоніма, падаваць свой адрас — для ведама рэдакцыі.

# Абвестка.

7 сакавіка г. 1926 году ў 10 гадзін дня ў памяшчэньні Беларускага Каапэратыўнага Банку ў Вільні—Тавар. з агранічанай адказнасьцю (Віленская вуліца № 8) адбудзецца

## Агульны сход

сяброў Таварыства з наступным парадкам дня:

1. Выбары прэзыдыуму,
2. Агульная справаздача за мінулы 1925 г., а) фінансавая справаздача (балянс) Управы Банку, б) Справаздача Наглядная Рады аб дзеяльнасьці Банку і в) зацьверджаньне бюджэту расходаў на 1926 г.,
3. Парадак выкананьня п. 3 § 23 Статуту,
4. Давыбары сяброў Наглядная Рады.

**Наглядная Рада.**

Украінський заклад пасічницькои знарядди та штучної вощини „БДЖОЛА“

Адреса: E. Archypenko, Jałowec 166, Lwów 14.

Пропонує братам-пасічникам білорусам всіляке пасічницьке знаряддя, вулики, штучну вощину готову, а также приймає віск на переробку.

ДЕШЕВІ ЦІНИ. )—( ШВИДКЕ ВИКОНАННЯ.

ЦІННИК ІЛЮСТРОВАНИЙ БЕЗПЛАТНО.

Рэдактар-Выдавец: Ян Марцінеўскі. Друкарня Н. Левін і Сын, Вільня, Нямецкая 22.